# ВЕСТКІ З КРАЮ.

### За кім пойдзе вёска.

(Нясьвіскі павет).

Прадвыбарны час... Дзе ні глянь у газэту, ці то беларускую, ці то польскую, ці іншую якую — на старонках убачым агітацыйныя артыкулы. Усякі стараецца перацягнуць на свой бок другога, каб зарабіць мандат. Цяпер кожны дае зямлю, лясы, волю, школу і ўсе.., ад зямлі да неба. Але трэба прыпомніць 1922 год,

Тады кожны воўк падходзіў лісам, а потым забраўшы галасы, стаўся зноў ваўком:

Тады паўстаў блёк Нац. Меншасьцяў, у які ўвайшлі Беларусы, Украінцы, Жыды і Немцы. Тады, нават, было трудна адгадаць за каго галасаваць, бо ўсе падпанкі запужвалі вёску гэтым блёкам казаўшы, што там Жыды і ўсе згінуць, як рудыя мышы, калі аддадуць на гэны сьпісак галасы. Але беларуская прэса ў той час вяла на добрую дарогу і хто аддаў свой голас за блёк, то потым даведаўся, што ягоны голас не прапаў задарма.

Цяпер вёска ўсё гэтае зрузела і ведае хто яго вораг, а хто прыяцель. Цяпер ізноў будзе многа сьпіскаў, ня толькі польскіх, але, мо', і беларускіх, але селяніна ўжо цяжка ашукаць. Возьмем, для прыкладу, Паўлюкевіча, ці Ўмястоўскага. Яны — родныя „казённыя" браты, якія хочуць закупіць у свае кішані сялянскія галасы. Яны з сялянамі гутараць, аж покі не ашукаюць. Памятаюцца выбары ў валасныя Самаўрады, калі Паўлюкевіч крычаў, што баліць яго галава, каб у радныя прайшлі Беларусы. А дзеля чаго ён крычаў? Не дзеля таго, каб сяляне ведалі, што ёсьць „тоже бѣлоруссъ" Паўлюкевіч. Ён прачуваў тады, што будуць выбары, ну і крычаў, што баліць яго галава, каб потым вылечыцца ў Сойме, пралезшы туды сялянскімі галасамі. Але ашукаўся Паўлюкевіч! Не атрымае ён галасоў у нашым павеце. Мне прышлося гутарыць з адным кіраўнікам аддзелу „Прасьветы" у в. Дунайчыцах з нейкім Х. Шыбутам, дык і гэты казаў, што на выбарах Паўлюкевіч мала пажывіцца нашымі галасамі.

А сяляне дык і прыказку маюць: „Відаць пана па халявах" — ці-ж ашукае іх Паўлюкевіч?

Таксама і Ўмястоўскі не пажыруе, хоць і засыпае Нясьвіскі павет сваім „Беларускім Днём", але аб ім мала хто ведае, ці ёсьць ён на сьвеце, ці жыве.

Усё нашае сялянства пойдзе за Блёкам Нац. Меншасьцяў. Пойдзе за Беларус. Аб'яд. Выбар. Камітэтам, які стаў на цьвёрдым грунце сялянскіх інтарэсаў.

Зорка.

### Мітынг у Глыбокім.

(Дзісеншчына).

12 студня ў м-ку Глыбокім на рынку, адбыўся прадвыбарны мітынг, арганізаваны Бел. Аб'яд, Выб. К-там блёку Нац. Меншасьцяў. На мітынгу прамаўлялі гр. гр. Краўчонак і Аніськовіч. Прамоўцы высьвятлілі баламуцтвы і ашуканствы ня толькі польскіх „лявіцовых" партыяў, а і Паўлюкевіча і Ўмястоўскага. Сяляне пачуўшы прозьвішчы гэных „апякуноў" прарвалі прамову, доўга на сьціхаючым крыкам „Здраднікі!, Агенты!, Правакатары, яны і іх інструктары!".

Далеўшую прамову аб тым, што Блёк Нац. Меншасьцяў сапраўды стаў у абароне Беларусаў і сялян на грунце будучага Сойму, сяляне слухалі з надзвычайнаю ўвагаю. Калі-ж прамоўцы кінулі лёзунгі: „Няхай жыве Беларускі Народ! Няхай жыве Беларуская Сялянска-Работніцкая згода! Няхай жыве Бел. А'бяд, Выб. К-т Блёку Нац. Меншасьцяў! Няхай жыве Сялянска-Работніцкая Ўлада" — увесь рынак загудзеў ад воплескаў. Раздаванаю прамоўцамі літэратуру сяляне разьбіралі наперабой.

Трэба заўважыць, што на мітынгу зьбіраліся прамаўляць агенты Ўмястоўскага і „Партыі Працы", але, бачачы такі настрой у сялян — выступіць ім не хапіла адвагі.

### Не магу маўчаць.

(м. Лужкі, Дзісенскага пав.).

Браты-Беларусы!

Калі вам дарагая будучыня сваіх дзяцей і школы для іх, калі вам дарагія суды на роднай мове і другія ўстановы, дык рыхтуйцеся да выбараў у Сойм і Сэнат, каб туды вы паслалі як найбольш сваіх барацьбітаў.

Рыхтуйцеся, і, калі прыдзе дзень галасаваньня, глядзіце, каб вас не ашукалі перад самым склонам вашых рук над урнамі. На выбары ў абводныя камісіі вы павінны ісьці з цьвёрдым праканаьнем за каго галасаваць! За каго-ж галасаваць? А за таго, хто ўзапраўды бароніць інтарэсы сялянаў-мужыкоў. Гэтакім абаронцам вашым толькі і ёсьць Сялянскі Саюз. Дык галасуйце за той сьпісак, які падасьць гэны Саюз і на якім будуць яго кандыдаты.

Браты-Беларусы! Асьцярагайцеся ваўкоў-агітатараў. Яны ёсьць пасярод самых вас. За прыкладам далёка ісьці ня трэба.

У в. Забаліне ёсьць пісака гаспадарскіх парадаў у „Беларускім Дні" — Янка Тарыкаў. Спачатку ён быў грамадаўцам, цяпер гэны Тарыкаў захацеў зрабіцца паслом у Сойм, каб атрымліваць дыеты — вялікую пэнсію; добра пажыць, нічога ня робячы, як і да гэнага часу ён нічога не зрабіў для братоў-Беларусаў.

Сам Тарыкаў зьяўляецца сябрам партыі Умястоўскага, якая толькі для вока носіць назоў беларускі. Партыя гэная з усіх нас хоча зрабіць нявольнікаў, але ці выйдзем мы годнымі для іх, аб гэтым партыя Умястоўскага, асабліва-ж Тарыкаў і не падумалі.

Дык, Беларусы, помніце гэтае і аддавайце свае галасы толькі за блёк нацыянальных меншасьцеў, бо другіх партыяў у нас няма, якія-б стаялі за сялян і жадалі-б ім дабра.

Няхай жыве Сялянскі Саюз і яго кандыдаты!

Выбаршчык.

### Беларуская вечарына.

(м-ка Сьвір, Сьвяцянскага павету).

8 студня у м. Сьвіры адбылася Беларуская вечарына, на якой была адыграна п'еса Я. Быліны „Выбары Старшыні". У выкананьні роляў бралі ўдзел наступныя асобы: Ф. Ерафееў, З. Ашакевіч, Я. Карэцкі, Р. Бугічык, М. Карэцкі, А. Вярбіцкая і Т. Сягень, якія не пашкадавалі сваіх сілаў на тое, каб добра і стройна адыграць п'есу. Праўда, з вялікім трудом даставалі яны неабходныя прыналежнасьці для дэкарацыі і рэквізыту.

Глядзельнікаў было многа, якія вельмі зацікавіліся ігрою нашых простых артыстаў...

Дзякую вам, барацьбіты Культуры, за вашыя высілкі на сваей нацыянальна-адраджэнскай Ніве...

Жадаю і надалей карысна працаваць на дабро нашаму Сялянскаму Народу.

Вінцковіч.

# Гаспадарскі аддзел.

### Як палепшыць ураджайнасьць сенакосаў і пасьвішча шляхам мэліарацыі.

Вельмі часта прыходзіцца чуць ад сялян, што ў такім-то і такім мейсцы зусім дрэнны ўраджай на сена, або блізу няма нават чаго і касіць.

Кожны больш-менш ведае, як палепшыць поле (ральлю), калі яно перастае радзіць; а тое, як палепшыць свой вучастак пад сенакосам, хоць бы нават тым спосабам, які прыблізна даступны кожнаму з сялян, — застаецца для іх незразумелым.

І вось, хоць коратка, я пастараюся растлумачыць гэта селяніну, дзеля таго, каб, добра абдумаўшы за зіму, потым з пачаткам вясны, дзельна ўзяўшыся за працу, ён хоць трохі змог-бы падняць ураджайнасьць сваіх сенакосаў.

На пытаньне, чаму нашыя сенакосныя ўгодзьдзі даюць неадпаведны ўраджай, можна адказаць, пераважна так, што блізу ўсе яны маюць пад сабою торфяную масу, а торф у гэным выпадку падобны да губкі, плаваючай у вадзе. Знача, пад нашымі сенакосамі ў большасьці выпадкаў цераз меру многа вады, а калі многа вады, то тыя расьліны, якія калісьці былі прадуктам тварэньня торфу, ня зьнішчыліся, а і цяпер, дзякуючы лішку вады, яны, хоць і ў меншай колькасьці, але-ж усё-такі растуць і, як дзічэйшыя, больш здольны да барацьбы з травамі пазьнейшага часу, травамі больш культурнымі. З гэтых расьлін самыя найгоршыя, з якімі трэба вясьці барацьбу, — гэта імхі. Мох бывае дваякі: мох гіпнум (hypnum) і мох сфагнум (sphagnum); першы мае выгляд зеленаваты, а другі сьвятлейшы і шмат большы на рост. Ёсьць і другія балотныя расьліны, якія таксама шкодзяць росту травы, але-ж пералічываць іх няма чаго, бо, зьнішчыўшы рост гіпнума і сфагнума, яны прападуць самі сабою.

Як бачыце, усе гэтыя дзікія балотныя расьліны надта любяць ваду; значыць, каб пашкодзіць іх росту і распаўсюджываньню, трэба пастарацца адабраць ад іх ваду, а потым, калі вучастак падсохне, зьвішчыць і іх.

Праўда, на ўсё гэта патрэбны тэхнічныя сілы, патрэбен і інструмант, але-ж і бяз іх можна хоць сёе-тое зрабіць сваім сялянскім розумам і прыладамі. Калі нашыя сенакосы, ці пасьвішча бываюць заліты вадою з аднаго ці некалькі ручайкоў, а тыя, працякаючы праз сенакосы, ці пасьвішчы, дзякуючы таму, што берагі іх растаптала скаціна, а руслы загналі веснавыя і навальнічныя наносы з палёў, не дайшоўшы да большай рэчкі, пачынаюць разьлівацца і забалачваць паблізу ляжачыя мейсцы, даючы добрыя варункі дзеля росту балотных дзікіх расьлін. Акрамя таго, вада, як благі праваднік цяплыні, ня так скора награваецца сонцам сама і не дае сагрэцца тэй зямлі пад сабою, у якой распаўсюджаны карані травы, а цяплыня ёсьць адным з тых фактараў, якія абавязкова патрэбны кожнай расьліне. Знача, трэба пазбыцца гэтай лішняй вады, а дзеля таго трэба асушыць гэны сенакос, або пасьвішча. Дзеля гэтага, выбраўшы найлепшы напрамак, па якому-бы магла сьцякаць вада, трэба распачаць працу, капаючы канавы, раней гэтае мейсца абазначыўшы вехамі (тычкамі). Памагчымасьці канавы старацца правадзіць па простай лініі і, каб вада ў іх цякла ня зусім памалу, бо памалу цякучая вада дасьць ізноў добрыя варункі дзеля росту ўсялякіх водных расьлін (асакі, сітніку і інш.), гэтакую канаву трэба часта прачышчаць. Берагі — бакі ў канавах трэба рабіць так, каб былі больш палогія; гэта дзеля того, што грунт балотны большай часьці зусім нямоцны, і канава з стромкімі берагамі будзе недаўгавечна, хутка засыплецца.

Потым-жа, калі пакопаны канавы і як падсохне балота, асабліва на сенакосе, трэба пастарацца зьнішчыць мох; перш бараною, а потым граблямі зграбці ў кучы, а як высахне, трэба яго спаліць, а попел рассыпаць па сенакосу. Далей, дзеля таго, што травы там добрай зусім няма, — пастарацца яе пасеяць. Палепшыць-жа грунт на сенакосах можна яшчэ і тым, што ў сялян заўсёды прападае; гэта — бульбавеньне і попел. Праўда гэтым за-раз не палепшыш ураджайнасьці ўсяго сенакосу, але-ж пры добрым стараньні год ад году можна справіць свае вучасткі так, што яны напэўна добра аплацяць тую працу, якая будзе на іх затрачана. Нагул, у кожным дзеле неабходна праца, а кожная разумная праца дае карысьць.

І вось, каб мець лепшыя сенажаці, а разам з гэтым і лепшую скаціну, і каб ня збыць гэтую скаціну за нішто, ды ня траціць грошы на пакупку сена, — трэба зьвярнуць увагу на тыя вашы вучасткі, якія адваявала ў вас вада. Дзесяткі, сотні дзесяцін гібеюць ад гэтага; гібеюць ад таго, што гаспадары іх зусім мала зьвяртаюць на гэта ўвагі.

Сяляне! Падумайце аб гэтым добра і з пачаткам вясны адлажыце па некалькі дзён, пастарайцеся асушыць залітыя вадою вашыя сенакосы і пасьвішчы, — і вы, напэўна, угледзіце, што праца вашая ня будзе дарэмнай, а дасьць карысьць і нават вялікую карысьць.

У. Б.



# НАШАЯ ПОШТА.

**Яну Дэшкоўскаму.** На Вашае пісьмо ад 11.І. с. г. аб карэспандэнцыі пад назовам „Тып лёкая", зьмешчанай у № 3 „Сял. Нівы", выясьняем наступнае:

Гр. Цяўлоўскі нікчэмную ўслугу робіць беларускаму руху тым, што імкнецца да паланізацыі беларускіх земель, працуючы ў кантакце з угадоўцамі і з „Беларускай Радыкальнай Народнай Партыяй" Ф. Умястоўскага. Такую самую работу выконваеце і Вы, паскольки Вашае прозьвішча зьмешчана радам з прозьвішчам гр. Цяўлоўскага (глядзі „Бел. Дзень" № 37 ад 3.XII. 1927 г.). Калі хочаце паправіць сваю апінію ў вачох беларускага грамадзянства, павінны публічна (праз прэсу) заявіць, што Вы нічога супольнага ня маеце з гр. Цяўлоўскім і што пакідаеце весьці паланізацыйную працу, якую вядзеце, магчыма, ня сьведама.

**А. І.** Вершы слабыя як па думцы, так і па тэхніцы. Карэспандэнцыю і артыкул, калі падыдуць, зьмесьцім.

**Arbeiter Bucher Stube fur Schmidt.** Газэту пасылаем ад 1.І. с. г. у 2-х экзэмплярах.

**Гуртку Інстытуту ў Нарэўцы.** 3 зл. у „Саху" і 4 зл. у „Маланку" перадалі.

Шкляніку Г., Ермаковічу А., Бобку П., Кірыку Т., Шэйку Я., Дзямідовічу Ю., Беляўскаму І., Кліцэвічу Д., Ігнатовічу М., Міхневічу Я., Болтрашу Ц., Кедышу А., Раманоўскаму Ул., Чернабою П., Строцкевічу Н., Кісламу І., Чарняўскаму Л., Рынкевічу Ст., Таўкачу І., Дараховічу В., Біговю Б., Жуску М., Алексейчыку Я., Городко М., Ілюкевічу А., Белевічу Ул., Клімовічу П.—газэту пасылаем.

### Дасталі ад:

Цупко В.—4 зл.; Падбярэскага Гальяша—3 зл.; Гуртка Інстытуту ў Нарэўцы — 4 зл.; Зеневіча Ст. — 6 зл. 15 гр.; Гарановіча Ів.—3 зл. 50 гр.; Марача А., Мальчыка П., Колбаскі Мік., Ламана С., Арнольбіка Якуба, Ламана Андрэя, Трыпуцькі П., Журкі М.—па 2 зл.; Севрука І., Грышкевіча Даніль і М.—1 зл.

## Юрыдычная парада.

**Гр. М. Гробару.** Паскольки цесьць перад сваей сьмерцяй не зрабіў фармальнага тэстаманту, усе яго дзеці (дочкі) дзеляць спадак па роўнай часьці. У сувязі з гэтым у акружны суд апэляцыі ня варта падаваць.

## Папраўка.

У № 5 нашае газэты абмылкова падана памешканьне Павятовага Беларускага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту Блёку Нацыянальных Меншасьцяў у Глыбокім на Ломжынскай вуліцы № 20. Трэба: Ломжынская вул № 49.

# Кутон сатыры і сьмеху.

### Конскі фэльчар.

Лукаш і Тамаш заспрачаліся. Лукаш гавора, што чалавек можа быць здольным толькі на нешта адно. А Тамаш спрачаецца і сіліцца даказаць, што наадварот: ёсьць розныя людзі.

— Ёсьць такія людзі, што зьяўляюцца здольнымі на ўсё. Вось, напрыклад,—гавора Тамаш,—„доктар" Паўлючок, папоўскі сын, а быў на вайне конскім фэльчарам, пасьля заняўся дэфэнзыўнаю працаю і вельмі „ўдала" і старанна, а цяпер ужо будзе гіцлям (які ловіць бяздомных сабакаў). Канцэсію на гэта Паўлючок атрымае лёгка, бо зьяўляецца вельмі адпаведным.

Процi гэтакага важкага доказу Лукаш спрачацца ўжо ня мог.

Так што Паўлючок, прайшоўшы этапы ад папоўскага сынка да конскага фэльчара і дэфэнзыўшчыка, стане — гіцлям.

### І яшчэ канцэсія.

Ходзяць па Вільні станоўчыя чуткі, што „доктар" Паўлючок, апрача ігры ў лёто і гіцлеўства (сабакалоўства), каб павысіць даходы, робіць захады, перад адноснымі дзейнікамі аб выдачы яму сталае канцэсіі на ачыстку сьметнікаў і клязэтаў.

### Хутка пасьля вясельля.

Муж вярнуўшыся з працы гавора: „Ах, як я сёньня нахапаўся пылу!"

Маладая жонка сама да сябе: „Ах, як добра сталася, бо сёньня абед зусім няўдалы, усё спалілася. Дык пасьля пылу, мо' не разбярэцца...

Рэдактар і выдавец А. Герасімчук.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.